# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Субота, 17 снежня 1994 года | № 135 (10835) | Цана 80 руб.


■ Парламент: дзень за днём

## Чакаецца нялёгкі тыдзень

Парадак дня пленарнага пасяджэння Вярхоўнага Савета Беларусі ўжо сёння можа быць вызначаны з высокай ступенню дакладнасці. Вядучым пытаннем, відаць, будзе абмеркаванне Дзяржаўнага бюджэту на 1995 год. Праект, прапанаваны прэзідэнтам, паступіў у Вярхоўны Савет.

Дэпутатам, напэўна, трэба будзе таксама абмеркаваць змяненні, якія датычаць падатковага заканадаўства. А таксама разгледзець у другім чытанні законы "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь", "Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь", а таксама законапраект аб прэзідэнце.

На сесію плануецца вынесці таксама пытанне аб унясенні ў парадак дня даклада дэпутата ад парламенцкай апазіцыі Сяргея Антончыка, які ў апошні час па ўласнаму жаданню змяніў Аляксандра Лукашэнку ў якасці "барацьбіта з карупцыяй".

Магчыма, дэпутатам трэба будзе назначыць дату выбараў у парламент новага склікання. Пакуль арыенціровачным днём выбараў называецца 14 мая.

*БЕЛІНФАРМ.*

ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

## Урад падтрымае вёску

Як паведаміла прэс-служба Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, у Доме ўрада пад старшынствам прэм"ер-міністра Міхаіла Чыгіра адбылося чарговае пасяджэнне Кабінета Міністраў.

Разгледжаны і адобраны праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб донарстве і трансплантацыі органаў і тканак чалавека".

Важнае месца ў парадку дня заняло абмеркаванне пытанняў сельскай гаспадаркі, праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у законы Рэспублікі Беларусь "Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь", іншыя дакументы.

Адзначана нарастанне негатыўных працэсаў у сельскагаспадарчым комплексе рэспублікі, разбурэнне раней створанага патэнцыялу. Значная колькасць гаспадарак па фінансаваму становішчу знаходзяцца ў крытычным стане, а перапрацоўчыя прадпрыемствы на мяжы банкруцтва. Паводле папярэдніх даных, у 1994 годзе чакаецца скарачэнне вытворчасці прадукцыі сельскай гаспадаркі на 17,5 працэнта. Вызначаны неадкладныя меры дзяржаўнай падтрымкі.

*БЕЛІНФАРМ.*

## Работай забяспечаны

Не змяншаюцца аб"ёмы работ у ПМК-23. Для яе калектыву асноўным зараз лічыцца водазабор «Вінклераўскі». Там увялі ўжо адміністрацыйна-бытавы корпус, станцыю абезжалезвання, хлараторную, кацельню, дызельную электрастанцыю. Хутка будзе здадзена трансфарматарная падстанцыя, рэзервуар для вады. Сёлета тут асвоена звыш 80 мільёнаў рублёў.

Акрамя таго, рабочыя ПМК-23 займаюцца рэканструкцыяй сістэмы зваротных вод Гарадзейскага цукровага камбіната. Заняты яны на сажалцы «Дзікая», торфаўчастку «Вайнілавічы» і іншых аб"ектах.

*Раіса ХВІР.*
*г.Нясвіж.*

■ Прэзідэнцкая "вертыкаль"

## "УЛАМАЛІ" ЗАЛАМАЯ

Пасля назначэння старшынь аблвыканкомаў ва ўсіх іншых абласцях рэспублікі Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыбыў у Брэст, дзе прыняў удзел у рабоце нечарговай сесіі абласнога Савета.

Прэзідэнт прапанаваў на зацвярджэнне дэпутатам на пасадзе старшыні Брэсцкага аблвыканкома кандыдатуру Уладзіміра Аляксандравіча Заламая. Большасць з іх добра ведаюць прэтэндэнта на гэтую пасаду, які даволі доўга ўзначальваў Баранавіцкі раён, а потым працаваў намеснікам старшыні Брэсцкага аблвыканкома. У апошні ж час ва ўрадзе рэспублікі ён займаўся справамі СНД.

Абмеркавання прапанаванай прэзідэнтам кандыдатуры У.Заламая не было. Відаць, усё-такі праявілася добрае веданне яго дзелавых і прафесійных якасцей прысутнымі. У выніку пры галасаванні Уладзімір Аляксандравіч Заламай быў аднагалосна зацверджаны старшынёй Брэсцкага аблвыканкома. Прэзідэнт рэспублікі павіншаваў яго з новым назначэннем і падзякаваў за работу на гэтай пасадзе Віктару Іванавічу Бурскаму, які застаўся на пасадзе старшыні аблсавета.

У кароткім выступленні новы кіраўнік выканаўчай улады вобласці выказаў надзею на плённую работу дэпутатаў і гаспадарчых кіраўнікоў вобласці па вываду эканомікі з крызісу. Ён асабліва падкрэсліў, што неабходна вярнуць прамысловасць і сельскую гаспадарку хоць бы ў рамкі 1990 года. Перадумовы для гэтага ёсць. Прычым патрэбна разлічваць у асноўным на ўласныя сілы.

Прэзідэнт расказаў аб грамадска-палітычнай абстаноўцы ў краіне, ходзе выканання праграмы па вываду эканомікі з крызісу, адказаў на шматлікія пытанні.

Пасля завяршэння сесіі прэзідэнт наведаў Брэсцкі пагранатрад.

*БЕЛІНФАРМ.*

## У "ГОРАДЗЕ СОНЦА" — НОВЫ КАМПАНЕЛА

**Каля двух тыдняў назад старшыня выканкома Маладзечанскага гарадскога Савета дэпутатаў Генадзь Карпенка падаў заяву аб адстаўцы. Па-рознаму была ўспрынята яна грамадскасцю. Хтосьці лічыў, што маладзечанскі мэр імкнецца пазбегнуць маральнай адказнасці за нявыкананыя абяцанні, што былі дадзены некалі гараджанам на самым пачатку яго палітычнай кар"еры. Іншыя, а такіх большасць, звязвалі адстаўку старшыні з яго неардынарнымі поглядамі на ход грамадскага развіцця, эканамічныя пераўтварэнні — на ўсё тое, што было прынесена ў жыццё новымі метадамі арганізацыі выканаўчай улады ў рэспубліцы.**

Карпенка не хаваў сваіх поглядаў. Сваю нязгоду з афіцыйна прынятым курсам ён адкрыта выказваў у прэсе, выклікаючы зразумелыя сімпатыі з боку аднадумцаў.

Нечарговая XXI сесія Маладзечанскага гарадскога Савета дэпутатаў і разгледзела арганізацыйнае пытанне. Сваё кароткае выступленне Генадзь Карпенка пачаў са слоў шчырай удзячнасці тым, хто ўсе гэтыя чатыры гады працаваў побач з ім.

Безумоўна, людзі па-рознаму ацэняць уход Карпенкі. І ўсё тое, што зроблена ім для горада ў гэты кароткі прамежак часу. І якога часу? Трывожнага, нестабільнага — і ў эканоміцы, і ў палітыцы. Хтосьці скажа: мала зрабіў, хтосьці — многа. І будуць мець рацыю і першыя, і другія.

Пры Карпенку гарвыканком вёў паслядоўную палітыку на прыватызацыю камунальнай уласнасці, карыстаючыся падтрымкай большасці Савета. Горад, бадай, першым у рэспубліцы стаў праводзіць аўкцыёны па продажу рэстаранаў, кафэ, магазінаў, якія прыйшлі ў заняпад і давалі мізэрны даход. Сродкі ад продажу папаўнялі гарадскі бюджэт. Горад будуе дом для інвалідаў і ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Гэтая ідэя, народжаная Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, знайшла сваё рэальнае ўвасабленне пакуль што толькі тут.

Маладзечна стаў горадам фестываляў, другім пасля сталіцы культурным цэнтрам рэспублікі. Абласны драматычны тэатр, гарадскі сімфанічны аркестр, які выступаў на многіх сцэнах свету, з"явіліся менавіта ў гэты час.

Плённае супрацоўніцтва з нямецкімі гарадамі-партнёрамі, міжнароднымі дабрачыннымі арганізацыямі садзейнічала таму, што Маладзечна сёння мае добрую базу аховы здароўя.

Горад надзейна забяспечаны палівам, у хуткім часе сюды, напэўна, стане паступаць прыродны газ.

Такія рэаліі. Хоць не ўсё, задуманае цяпер ужо былым старшынёй гарвыканкома, ажыццёўлена. Гэта пры Карпенку нарадзілася, але не была рэалізавана ідэя рэгіянальнага кіравання. Аазіс у пустыні, "Горад сонца" не атрымаўся. Такія ж, як і паўсюдна, знерваваныя чэргі за хлебам і малаком — іншыя прадукты харчавання становяцца ўсё больш недаступнымі. Напэўна, як ні ў якім іншым раённым цэнтры, тут наглядна праявіўся працэс расслаення грамадства.

Карпенка не быў бы палітыкам, не так даўно прэтэндаваўшым на прэзідэнцкае крэсла, калі б, пакідаючы пасаду, не выказаўся адносна існуючай у рэспубліцы ўлады і яе рэальных праяў:

— Думаю, што прэзідэнт робіць крок назад ад дэмакратыі. Усенародна выбраны, ён адмаўляе грамадзянам рэспублікі ў рэалізацыі іх права выбіраць мясцовую ўладу. У выніку сёння краіна мае не лепшае кіраўніцтва.

І ўсё ж я — аптыміст. Я веру: няхай марудна, але народ прыйдзе да сапраўднай дэмакратыі, парасткі якой ужо нарадзіліся ў маладой дзяржаве.

А магчымасць афіцыйна выказаць сваю нязгоду з палітыкай уладных структур — хіба гэта не адна з праяў дэмакратычнасці грамадства? — хацелася запярэчыць Генадзю Дзмітрыевічу. Але права на ўласную думку — таксама неад"емнае права асобы ў дэмакратычным грамадстве.

— Напэўна, не варта яшчэ раз падкрэсліваць складанасць часу, — пачаў сваё выступленне перад дэпутатамі старшыня аблвыканкома Пётр Пятровіч Пётух. — Бо некаторыя сёння прывыклі спасылацца на яго, прыкрываючы тым самым уласную безадказнасць і бяздзейнасць. Лягчэй за ўсё тыцкаць пальцам у недахопы, забываючыся на сваю ролю. Менавіта бяздзейнасць кіраўніцтва прыводзіць часам да негатыўных з"яў у эканоміцы. Як вынік — азмрочаны настрой людзей, адсутнасць у іх упэўненасці ў добрых пераменах.

Пачуццём адказнасці за лёс людзей павінны кіравацца тыя, хто надзелены ўладнымі паўнамоцтвамі, лічыць старшыня аблвыканкома. Без гэтага з глыбокага крызісу не выйсці. Людзі — гэта не фон, на якім ажыццяўляецца палітыка і размяркоўваюцца кіруючыя пасады. Прэзідэнцкая "вертыкаль" — форма ўвасаблення ў жыццё такой гуманістычнай улады, якая не дэкларуе, а на справе ажыццяўляе прынцып: усё для чалавека.

У выступленні Пятра Пятровіча знайшлося месца для цёплых слоў у адрас Генадзя Дзмітрыевіча Карпенкі, прызнання яго асабістых заслуг перад маладзечанцамі.

Дэпутаты пры двух "супраць" і двух "устрымаўшыхся" задаволілі просьбу старшыні гарвыканкома аб адстаўцы. І амаль гэтак жа аднадушна прагаласавалі за новага кіраўніка гарадскога выканкома, кандыдатуру якога прапанаваў Пётр Пятровіч Пётух, — Татарыновіча Станіслава Канстанцінавіча. Ён узначальваў у Маладзечне вытворчае аб"яднанне "Камунальнік" і быў намеснікам старшыні гарвыканкома.

Выбраны і старшыня гарадскога Савета дэпутатаў. Заняць гэтую пасаду на грамадскіх асновах згадзіўся Вікенцій Уладзіміравіч Сірота, загадчык аддзела народнай адукацыі гарвыканкома.

*Марыя КУЗАЎКІНА.*





*Паспяхова працуе ў складаных эканамічных умовах калектыў Валожынскага лясгаса. Немалы прыбытак прадпрыемству дае прадукцыя, якая выпускаецца цэхамі па перапрацоўцы дробнатаварнай драўніны, вырабу мэблі і зрубаў, разьбы па дрэву, інкрустацыі.*

*НА ЗДЫМКАХ: галоўны ляснічы Аляксей ЗАХАРЭВІЧ (справа) і работнік лясгаса Юрый ПРАВАЛОЦКІ дэманструюць прадукцыю цэха разьбы па дрэву; вадзіцель з трыццацігадовым стажам Уладзімір КРЫШТАПОВІЧ.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## Юбилейный подарок

Сразу три художественных фильма выходят на киноэкраны республики в преддверии 70-летия создания треста "Белгоскино".

Режиссер Игорь Добролюбов снял киноленту по повестям И.Шамякина под названием "Эпилог", в которой четко прослеживаются судьбы людей искусства — писателя и художника. Это фильм о бездуховности современного общества, о трагедии творческих личностей, ненужности и невостребованности плодов их труда. И.Добролюбов для участия в фильме пригласил известный актерский ансамбль — народную артистку А.Климову, В.Белохвостика, Э.Горячего.

Картина "Шляхтич Завальня" режиссера В.Турова — яркое национальное произведение по мотивам книги Яна Борщевского (в этом году отмечается его 200-летие). И актеры не менее именитые, чем в добролюбовском "Эпилоге". В фильме "Шляхтич Завальня" снимались В.Гостюхин, И.Забава, Д.Банионис, Б.Невзоров.

Кинокартина "Цветы провинции" режиссера Дмитрия Зайцева снята по одноименному роману Георгия Марчука. Это фильм о становлении личности, о формировании человека-творца. В картине снялись В.Титов, О.Гарбуз, О.Радкевич.

Приятно, что коллектив "Беларусьфильма" преподнес такой хороший подарок зрителям республики в канун 70-летнего юбилея белорусской кинематографии.

*Михаил ГУЛИС.*

■ Заўтра — Дзень энергетыка

## З "ЛЁГКАЙ" ПАРАЙ УСІМ ЛЯГЧЭЙ

**Жодзінская цеплаэлектрацэнтраль з"яўляецца адзінай крыніцай цяпла для горада машынабудаўнікоў. Да таго ж у Барысаве працуе кацельны цэх гэтай станцыі, які на 60 працэнтаў забяспечвае яго цяплом. Адпускаецца прадпрыемствам-спажыўцам і тэхналагічная пара.**

**— Як падрыхтаваліся энергетыкі да работы ў зімовых умовах?**

**Менавіта з такога пытання пачалася наша гутарка з дырэктарам цеплаэлектрацэнтралі Аляксандрам ЗАКРЭЎСКІМ.**

— Яшчэ ў кастрычніку аднымі з першых у аб"яднанні «Мінскэнерга» атрымалі пашпарт гатоўнасці да работы ў зімовых умовах, — адзначыў Аляксандр Станіслававіч. — Гэта значыць, што практычна ўсё абсталяванне было своечасова падрыхтавана да эксплуатацыі. Цяпер на самой станцыі ў Жодзіне працуюць чатыры катлы і турбіна. Пяць катлоў (праўда, меншай магутнасці) запушчаны ў работу ў кацельным цэху ў Барысаве. Пры поўнай нагрузцы станцыя здольная выпрацоўваць да 500 гігакалорый цяпла, і яшчэ 260 гігакалорый — яе кацельны цэх. Пры ўключэнні ў работу рэзервовых магутнасцей мы ў стане забяспечыць бесперабойную падачу неабходнай колькасці цяпла нават пры паніжэнні тэмпературы паветра да мінус 25—30 градусаў. Было б паліва...

***— А ці ёсць гарантыя, што не давядзецца мерзнуць людзям зімою?***

— Усё ўпіраецца ў фінансы. Наколькі мне вядома, на канец мінулага месяца нашы спажыўцы цяпла запазычыліся нам каля дзесяці мільярдаў рублёў, што затрымала разлік з Расіяй за атрыманы газ. У сувязі з гэтым нам і абмежавалі яго падачу — да 13 тысяч кубічных метраў у гадзіну на саму станцыю і да 8 тысяч — на кацельны цэх. А патрэбнасць адпаведна 24 і 12 тысяч кубаметраў. Таму для падтрымання неабходнага тэмпературнага рэжыму вымушаны спальваць і мазут са сваіх рэзервовых запасаў. Так, на самой ЦЭЦ яго расходуецца кожную гадзіну каля 8 тон, а ў кацельным цэху — 1,5—2 тоны.

Але ж запасы мазуту таксама абмежаваныя. Пры цяперашнім рэжыме работы станцыі і цэха нашых наяўных запасаў хопіць не больш чым на месяц. Таму выхад бачу толькі адзін: спажыўцы абавязаны пагасіць ранейшую запазычанасць і своечасова разлічвацца за цяпло і электраэнергію.

Між іншым, шэраг прадпрыемстваў знаходзяць сродкі, каб своечасова разлічыцца за цяпло. А калектыў БелАЗа заплаціў нават на паўгода наперад. Так што, як кажуць, было б жаданне...

***— Ваша цеплаэлектрацэнтраль выпрацоўвае не толькі цяпло, а і электрычную энергію. Ці адчулі вы павелічэнне нагрузкі на станцыю ў сувязі са спыненнем работы Ігналінскай АЭС, якая часткова забяспечвала электраэнергіяй і нашу рэспубліку?***

— Устаноўвачная магутнасць станцыі — 54 мегаваты. Праўда, цяпер нагрузка каля 20 мегават, а пры неабходнасці павялічваем да 30. Варта адзначыць, што электраэнергія выпрацоўваецца на станцыі парай, якая праходзіць праз кандэнсатар і пасля выкарыстоўваецца на ацяпленне. Гэта эканоміць энерганосьбіты, што вельмі важна пры іх дэфіцыце.

Што датычыць часовага спынення работы Ігналінскай АЭС, то яно не зрабіла на нашу станцыю ніякага ўплыву, бо мы «завязаны» ў агульную энергасістэму.

*Гутарыў Мікалай ЧАЛЕЙ.*
*г.Жодзіна.*



## МЫ С ВАМИ, КОЛЛЕГИ!

Как читатели, как коллеги, наконец, как соседи по нашему общему Дому печати, мы искренне озабочены судьбой одной из старейших газет республики, каковой является «Советская Белоруссия». Потому что видим: над ней действительно нависла угроза превращения солидного издания социальной защиты людей, издания со своей четкой политической и нравственной позицией в услужливый рупор грабреформаторов и всех властей предержащих.

«СБ» была, есть и, мы уверены, будет всегда с народом и для народа. В этом — ваша сила. Люди ценят в газете взвешенную конструктивную позицию, правду, свободу мыслей, открытость и объективность. А это стало возможным в наше, как говаривал знаменитый актер, мерзопакостное время, только благодаря четко налаженной дружной работе и подлинно творческой атмосфере в коллективе.

Не сомневаемся, что вы не измените своей позиции, останетесь честными, выдержите натиск всякого рода ревизоров, не смиритесь с ролью раболепствующего вассала в угоду социальному заказу тех, кто боится правды, боится гласности.

Мы с вами, коллеги!

*Журналисты "Мінскай праўды".*

Рэха вогненнай бяды

## ЗАГАРЭЛАСЯ САМА?

У той вечар дзве грузавыя машыны спыніліся на начлег на аўтастаянцы каля вёскі Стэцкі Стаўбцоўскага раёна. Маскоўскія вадзіцелі вырашылі павячэраць і адпачыць перад далёкай дарогай у Італію. І вось праз некаторы час вартаўнік заўважыў, што гарыць машына. На дапамогу выклікалі пажарных з райцэнтра. Байцы пажарнай службы прыклалі шмат намаганняў, каб зберагчы машыну, у якой знаходзілася шаўкавістая вата агульным коштам больш чым 50 тысяч долараў. Мяркуецца, што адбылося самазагаранне сыравіны.

## "ЖАРТЫ" ЗЛАМЫСНІКА

Сярод белага дня ўспыхнула сенасховішча ў калгасе "Бальшавік" Мінскага раёна. Ні пажарныя, ні хлебаробы гаспадаркі не змаглі збіць полымя, якое ахапіла цюкаванае сена. Засталося толькі папялішча. Вядзецца следства. Папярэднія даныя сведчаць, што нейкі зламыснік "пажартаваў" з агнём.

***З пачатку года на Міншчыне адбылося каля трох тысяч пажараў. Ахвярамі агню сталі 120 чалавек, сярод іх 13 дзяцей. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года колькасць вогненных здарэнняў ад неасцярожнага абыходжання з агнём павялічылася на 11 працэнтаў, падпалаў — на 17 працэнтаў. Звыш сарака разоў "чырвоны певень" наведваў жывёлагадоўчыя памяшканні, 50 разоў пабываў на аб"ектах гандлю.***

*Фёдар САГАНОВІЧ.*

**НАДВОР'Е**

*Сёння ўдзень па вобласці чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, невялікі снег. Тэмпература паветра — 1 — 6, у Мінску — 2 — 4 градусы марозу.*

# ВІВАТ, ПРЫВАТ!

## Калектыў Радашковіцкага завода мастацкай керамікі пасля доўгіх ваганняў усё ж вырашыў стаць уласнікам

ПРАДУКЦЫЯ завода /раней ён быў галаўным прадпрыемствам аб"яднання/ увесь час знаходзіла свайго пакупніка. Спалучэнне элементаў новага з народнымі, стагоддзямі выпрацаванымі традыцыямі, тонкае разуменне дэкаратыўных магчымасцей матэрыялаў забяспечвалі беларускай керамікі папулярнасць на ўнутраным і знешнім рынках.

Ды і сёння вазы для кветак, гаршчэчкі для тушэння, ёмістасці для салення і варэння, цукарніцы, хлебніцы, вазы для прадуктаў, наборы для напіткаў, чайныя і кафейныя сервізы, арыгінальнай формы падсвечнікі, розныя сувенірныя вырабы—гэтыя і іншыя рэчы вабяць вока сваёй дыхтоўнасцю і арыгінальнасцю. Штогадовае абнаўленне асартыменту—да 30 працэнтаў.

Зазначым, што рыначныя ўмовы ўносяць карэктывы ў вытворчасць, прымушаюць займацца выпускам і некерамічных вырабаў. Скажам, набору для кухні "Вязынка". Нават пры цане ў 3 мільёны рублёў ён з"яўляецца дэфіцытным таварам. Калектыў і цяпер, у перыяд абвальнай эканомікі, трымаецца, нікога не скараціў. Наадварот, сёлета паявілася дваццаць пяць новых рабочых месц, да канца года будзе яшчэ пятнаццаць. Для даведкі: у асноўнай вытворчасці занята каля пяцісот чалавек.

Не стаўлю перад сабой мэту падрабязна расказаць, за кошт чаго растуць аб"ёмы вытворчасці, як вырашаюцца сацыяльна-эканамічныя і бытавыя праблемы (заканчваецца будаўніцтва 40-кватэрнага дома), як нялёгка прадпрыемству мець на сваім балансе 17 тысяч квадратных метраў жылля, — да вытворчых спраў вернемся пазней. Проста хацелася праінфармаваць, што гэта за завод, які зараз апынуўся на раздарожжы пры вызначэнні стратэгічнага напрамку свайго далейшага развіцця — ісці на прыватызацыю ці не.

Будзем шчырымі — да яе псіхалагічна не ўсе гатовы. Узнікае нямала пытанняў, сумненняў. Фактычна мала хто ведае сутнасць самой прыватызацыі, механізм яе ажыццяўлення. І ўсё ж такі трэба рабіць выбар. Інакш Міндзяржмаёмасць можа выставіць прадпрыемства на конкурсны продаж ці аўкцыён валявым парадкам, без згоды калектыву. Калі ж ён сам прыме рашэнне аб прыватызацыі, то атрымае права набыць акцыі на 20 працэнтаў дзешавей за іх намінальны кошт. Так што ўсе незразумелыя пытанні работнікі Радашковіцкага завода мастацкай керамікі вырашылі лепш загадзя высветліць у тых, хто непасрэдна займаецца гэтай справай — у старшыні абласнога камітэта па кіраванню дзяржмаёмасцю і прыватызацыі Ф.А.Мураўёва, яго намесніка В.П.Маханькова. На сустрэчу з імі прыйшлі таксама кіраўнікі цагельнага завода "Гайдукоўка", які знаходзіцца на арэндзе.

Цікавая ўвогуле атрымалася размова, павучальная для многіх. Завадчан перш за ўсё турбавала, якую форму прыватызацыі выбраць. Ці могуць яны арганізаваць акцыянернае таварыства закрытага тыпу, каб не было чужых?

— Раней такі варыянт прадугледжваўся, — сказаў Мураўёў. — Цяпер жа на базе дзяржаўнага прадпрыемства, згодна з пастановай урада, ствараецца акцыянернае таварыства толькі адкрытага тыпу. Калі дзве трэці членаў калектыву згодны на прыватызацыю, то падавайце нам адпаведныя дакументы. Мы ствараем камісію. За тры месяцы яна ўсё разгледзіць і прыме рашэнне аб пераўтварэнні вашага завода ў акцыянернае таварыства. Затым наш камітэт на тэрмін да шасці месяцаў прызначае дырэктара (ім можа застацца і ранейшы кіраўнік), дае вам права ў гэты перыяд рэалізоўваць сваім работнікам ільготныя акцыі, а таксама аб"яўляе на іх адкрытую падпіску для ўсіх жадаючых.

— Майце на ўвазе, што 50 працэнтаў акцый вы абавязаны прадаць за чэкі "Маёмасць", — дапаўняе Маханькоў.

— А як быць нам? У нас заключаны арэндны дагавор да 1997 года. Ці можам мы зараз акцыяніравацца? — пацікавіўся дырэктар "Гайдукоўкі" К.С.Салагуб.

— Пры ўмове, што такое рашэнне прыме калектыў, — адказаў Мураўёў. — Раім вам заняцца гэтым цяпер. У вашых жа інтарэсах. Частка маёмасці ўжо з"яўляецца ўласнасцю вашых работнікаў. Да таго ж каэфіцыенты вызначэння кошту асноўных фондаў з месяца ў месяц растуць.

— А хто нам будзе даводзіць планы выпуску і рэалізацыі прадукцыі, вызначаць іншыя паказчыкі гаспадарчай дзейнасці? — задаецца чарговае пытанне.

— Забудзьцеся аб гэтым. Агульны сход акцыянераў з"яўляецца вышэйшай заканадаўчай уладай. На ім выбіраецца праўленне таварыства, яго генеральны дырэктар. Ніхто з пабочных не мае права ўмешвацца ў працэс кіравання. Усё вырашаеце самі.

— Значыць, тады зможам прадаць частку акцый і сваім сумежнікам?

— Па вашай просьбе Міндзяржмаёмасць выдзеліць вам пэўную колькасць для гэтага.

— Якім павінен быць размер статутнага фонду таварыства?

— Як мага большы. Тады і вам лягчэй узяць больш крэдыту пад залог маёмасці.

— З якіх крыніц браць сродкі на выкуп асноўных фондаў?

— З прыбытку, які застанецца ў вас, а таксама з фондаў зарплаты і матэрыяльнага заахвочвання. Можаце ўзяць і банкаўскі крэдыт.

Многае цікавіла людзей, паколькі прыватызацыя закранае асабістыя інтарэсы кожнага. Таму невыпадковым быў інтарэс і да таго, на якіх прадпрыемствах пайшлі справы пасля іх акцыяніравання. І адказ: "Нельга адразу ж чакаць вялікай аддачы. Паяўляецца больш магчымасцей для эфектыўнага гаспадарання" не задаволіў прысутных — кіраўнікоў вытворчых падраздзяленняў радашковіцкіх заводаў.

— Дайце гэтую свабоду і дзяржаўным прадпрыемствам. Чаму яны павінны працаваць горш за акцыянерныя? — не ўтрымаліся некалькі чалавек.

І сапраўды.

А які ж вынік сустрэчы? Калектыў завода мастацкай керамікі надумаўся пайсці на прыватызацыю. Іх жа суседзі — работнікі цагельнага завода "Гайдукоўка" не адважыліся: палічылі лепшым для сябе заставацца на арэндзе.

*Пётр СІДАРОВІЧ, спец.кар."Мінскай праўды".*

■ Далёкае — блізкае

# НА ЛЫЖАХ — З ЗАПАЛЯР"Я Ў СЛУЦК

Яшчэ гадоў дзесяць таму назад у гэтай невялікай слуцкай вёсачцы з кароткай назвай Боркі пражывала чалавек дванаццаць мужчын-ветэранаў. А сёння засталося ўсяго пяцёра. Старэйшынай сярод іх з"яўляецца дзядуля Андрэй Кунцэвіч — яму "стукнула" ўжо 78 гадкоў. Ён — не калгаснік, усё жыццё звязаў з Мінскам, і да вайны, і пасля яе жыў там, працаваў недзе сталяром. Зрэдку праведваў адзінокую сястру-ўдаву Маню, агарод падсабляў засеяць, убраць. Пасля яе смерці не парваў сувязей з родным кутам, гаспадарыць. Неяк праведаў дзядулю. Пастарэў, ссутуліўся, толькі цыгарэты смаліць гэтак жа, як і ў маладыя гады. Ля напаленай добра печкі, у цяпле, палілася гамонка. І ўспомніў Андрэй Пятровіч адну гісторыю, якая здарылася з яго стрыечным братам Мішам Кунцэвічам у 30-х гадах.

— Яго бацьку, Кастуся, — успамінае дзядуля, — у 1935 годзе з жонкай, двума сынамі і дачкой, як "ненадзейных", улады выслалі на Поўнач, у Котлас. Праз два гады майго бацьку, калгасніка, ноччу сцапаў "чорны воран", ды так сляды яго і згубіліся. Можа, узялі яго за тое, што брат ужо быў на лесапавале за Котласам, маглі сувязь "прышыць". Ды вось што было далей. Сын Кастуся, Міша, быў на два гады старэйшы за мяне, у 1936 годзе зімою ўцёк з высылкі і на лыжах 45 дзён ішоў дамоў — на Случчыну. Хлапцу ішоў дваццаць другі год, сіла і спрыт яшчэ былі, а ішоў праз лясы, балоты, абыходзіў гарады, чыгуначныя станцыі. Начаваў у малых вёсках, на хутарах, сардэчныя рускія жанчыны давалі яму паесці, на дарогу сёетое ў торбачку клалі. І ён прыйшоў на Радзіму — такая была прага пабачыць родны кут, дыхнуць паветрам свабоды. У вёсачку сваю баяўся заходзіць — маглі выдаць. Падаўся да дзядзькі ў вёску Рабак. Дачакаўся там вясны, а затым выехаў у пасёлак Дараганава каля Бабруйска, да знаёмых, якія дапамаглі ўладкавацца з работай, жыллём. Ды нядоўга пабыў Міша на волі. Нехта данёс на яго ў НКУС. Арыштавалі хлапца — і этапам назад, у Котлас. Там і вайна застала. Пайшоў на фронт і загінуў у 42-м годзе. А пра яго лыжны марафон паведаў мне Мішаў брат Аляксандр, ён і цяпер жыве на Поўначы, даўно на пенсіі, як і я. А бацька яго памёр недзе на лесапавале, яшчэ да вайны. Як кажуць сёння — у лагерны пылператварыўся.

...Зноў і зноў дыміць цыгарэтай дзед Андрэй, кашляе, працірае слязлівыя вочы. Ведаю: як толькі настануць маразы, ён вернецца ў сваю мінскую цёплую кватэру — да вясны.

*Міхась ТЫЧЫНА.*

# "РЫЗЫКА" — СПРАВА ДОБРАЯ

Мне часта даводзілася прысутнічаць на пасяджэннях райвыканкома, на якіх рэгістраваліся малыя прадпрыемствы. Як правіла, іх заснавальнікі ў сваіх праграмах планавалі і вытворчую, і камерцыйную дзейнасць. Апошнюю яны матывавалі неабходнасцю першапачатковага накаплення капіталу.

Але купляць і перапрадаваць тавары, інакш кажучы –займацца спекуляцыяй, куды прасцей, чым, дапусцім, шыць адзенне, бо не трэба вялікага розуму, каб вывудзіць грошы з худых кашалькоў сумленных людзей. І не дзіўна, што многія кіраўнікі малых прадпрыемстваў не спяшаюцца арганізоўваць выпуск тавараў, неабходных насельніцтву. Яны добра засвоілі "ісціну", што і без натугі можна жыць з камфортам.

Іншай пазіцыі прытрымліваецца дырэктар МП "Рызыка" Аляксандр Рыгоравіч Салавей.

— Будучае — за вытворчасцю, — упэўнена гаворыць ён.

З такім сцвярджэннем нельга не пагадзіцца. Выбрацца з глыбокага эканамічнага крызісу мы зможам толькі тады, калі сур'ёзна пачнём пашыраць матэрыяльную сферу. Добры прыклад у гэтым кірунку паказвае малое прадпрыемства "Рызыка", якое паявілася ў вёсцы Галынка Клецкага раёна восенню 1990 года. На ім тады працавала ўсяго пяць чалавек. На трактары МТЗ-80, які ўдалося прыдбаць яшчэ па нізкай цане, яны аказвалі розныя паслугі сельскім жыхарам: вазілі дровы, дапамагалі капаць бульбу і г.д.

Летам 1992 года наладзілі выпуск шлакабетонных блокаў. Галоўным канструктарам цэха, дзе пачалася іх вытворчасць, з'яўляецца Аляксандр Сямёнавіч Калімасаў, чалавек са светлай галавой і залатымі рукамі: ён і механік, і электрык, і зваршчык, і шафёр.

Не менш спецыяльнасцей і ў Канстанціна Мікалаевіча Сёмухі.

— Цяпер у нас працуюць 19 чалавек, — расказвае А.Р.Салавей. — Ніхто не цураецца работы. Пры неабходнасці і дырэктар становіцца грузчыкам. Калектыў склаўся дружны.

Пазнаёміўшыся з рабочымі, пераконваешся, што забыты ў апошнія гады прынцып "адзін — за ўсіх, усе — за аднаго" тут знайшоў пастаянную прапіску.

Калі арганізаваць двухзменную работу, то можна выпускаць у суткі 12 кубаметраў блокаў. Аднак магчымасці цэха выкарыстоўваюцца толькі на 50 працэнтаў: не хапае шлаку і цэменту.

"Рызыка" ўвесь час расшырае сваю матэрыяльна-тэхнічную базу. Завяршаецца будаўніцтва сталярнага цэха і майстэрні. Хутка пачне працаваць пілорама. Гэта дасць магчымасць рабіць вокны, дзверы, вагонку і дошкі для падлогі. Узводзяцца падсобныя памяшканні.

Сіняўскі сельскі Савет выдзеліў прадпрыемству адзін гектар зямлі, дзе Аляксандр Рыгоравіч плануе пабудаваць пякарню.

— Можна пайсці яшчэ далей, — разважае дырэктар, — і адкрыць сумеснае прадпрыемства па замарожванню ягад. Без замежных інвестараў, вядома, тут не абысціся: толькі для набыцця абсталявання патрэбны адзін мільён долараў.

Перагаворы наконт ажыццяўлення гэтай задумы ўжо вядуцца з германскім бізнесменам.

Кіраўніцтва "Рызыкі" думае не толькі пра сябе, сваіх працаўнікоў, але і аказвае матэрыяльную дапамогу Галынкаўскай сярэдняй школе, ветэранскай арганізацыі, мясцовай і раённай футбольным камандам.

Спонсарства, са слоў дырэктара, можна было б расшырыць, але душаць падаткі.

Я не разумею, чаму дзяржава многа грошай забірае ў тых, хто сам іх зарабляе. Для вытворцаў варта было б панізіць падаткі, для спекулянтаў — павысіць. Тады, на маю думку, павялічылася б колькасць "рызык", якія так патрэбны людзям.

*Аляксандр ЖУКОЎСКІ.*

# "ОЙ, КАЛЯДАЧКІ, ВЫ ХУТЧЭЙ, ХУТЧЭЙ..."

**А ў Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі Каляды ўжо прыйшлі. 8 снежня тут была адкрыта выстава "Калядныя ўзоры".**

Што ні крок, то дзіва. Вось анёлы... з саломы. Кожны вабіць да сябе. І той, што са свечкай, і той, што журботны, і той, што больш вясёлы. Гэта — работы маладой мастачкі Людмілы Крэсік. Калі б на выставе былі толькі гэтыя саламяныя фігуркі, яе варта было б наведаць. А "Калядныя ўзоры" — чароўная казка з бясконцымі цудамі.

Для чарнабровай паненкі ёсць тут каралі. Бурштынавыя, мядовага колеру — да залатых кос прыгажуні. Бірузовыя (незабудкавыя) — да яе блакітных вачэй. Убачыш такую, ды з цуда-каралямі на шыі, ніколі не забудзеш. А якія паэтычныя назвы ўпрыгажэнняў, зробленых рукамі Вольгі Ерафеевай і яе дзесяцігадовай дачкі! "Восень залатая", "Дубрава", "Танец шамана"...

А вось і шкатулка, куды можна пакласці ўсё гэта. Шкатулка незвычайная: вечка яе пакрыта ўзорам з драўлянай стружкі, пастаўленай на рабро. Кажуць, адзін чалавек ва ўсім свеце — Уладзімір Цэкуноў з Гомеля — можа стварыць такое. Ды ёсць у майстра вучні, пераймаюць сакрэты мастацтва- рамяства.

А гэтыя лакавыя шкатулачкі для пярсцёнкаў нашай красуні! Вольга Іванова распісвае іх, выкарыстоўваючы толькі беларускія сюжэты: помнікі дойлідства, жанчыны ў нацыянальных касцюмах.

На галаву дзяўчыне-чараўніцы — вяночак мастачкі Ірыны Рэпінай. "З каласкоў вяночак, маладосці сведка" сапраўды зіхаціць, ззяе, нібы саламянае сонейка.

Расказаць пра ўсё, што ёсць на выставе, слоў не хопіць. Ды і як апісаць тую дзівосную калядную казку, што пасялілася ў музеі? Схадзіце, паглядзіце. Вазьміце дзяцей, ім, як і вам, спадабаюцца і магутны зубр, і смешныя калядныя маскі, выштукаваныя з саломы, і забаўныя маленькія скульптуры з дрэва або гліны, і многае іншае. А, можа, вы зробіце святочны падарунак сабе ці сваім родным, сябрам? Працуе крама, у якой можна набыць творы народных майстроў.

Святочнага настрою вам!

*Марына ЛАЗУКА.*



*У пачатку гэтага года стаў працаваць свой магазін у калгасе імя Гастэлы Мінскага раёна. Ён створаны для лепшага забеспячэння калгаснікаў прамтаварамі, прадуктамі, а таму адразу заваяваў папулярнасць у насельніцтва. У нейкай ступені гэтаму спрыяюць і ветлівыя прадаўцы. Адна з іх — Вольга* ***Чарняўская*** *(на здымку).*

*Фота Аляксандра РУЖЭЧКІ.*

# СЯМ"Я ПАТРАБУЕ ЎВАГІ

## І не толькі аб гэтым засведчыла лістоўка

**Аддзел адукацыі Уздзенскага райвыканкома выдаў лістоўку "Усе мы родам з дзяцінства", прысвечаную Міжнароднаму году сям"і, які аб"яўлены Арганізацыяй Аб"яднаных Нацый. Яе аўтар — загадчык гэтага аддзела Пётр Мотыль расказвае аб тым, што зроблена ў раёне ў гэтым напрамку.**

Паведамляецца, напрыклад, што на падзешаўленне харчавання школьнікаў сёлета выдаткавана больш як 146 мільёнаў рублёў дзяржаўных грошай. Педагагічныя калектывы уздзенскіх школ №№ 1, 2, Лашанскай, Сямёнавіцкай, Нёманскай, Азерскай і іншых пастаянна ўдасканальваюць навучальна-выхаваўчы працэс, паглыбляюць дыферэнцыяцыю навучання. У гэтых калектывах створаны спрыяльныя ўмовы для выяўлення здольнасцей і інтарэсаў вучняў. Як вынік — паспяховыя выступленні школьнікаў раёна на абласной і рэспубліканскай алімпіядах. На Уздзеншчыне творча працуюць грамадскія інспектары па ахове дзяцінства. На такія пасады тут падабраны адказныя і ўмелыя педагогі, якія да дзяцей праяўляюць сапраўды бацькоўскі клопат. Гэта Аляксандр Іосіфавіч Брылеўскі з Нёманскай, Анатоль Анатольевіч Гаўрышчук з Лашанскай, Марыя Аляксандраўна Кульбіцкая з Ліцвянскай, Зоя Канстанцінаўна Бондар з уздзенскай СШ № 2, Валянціна Фёдараўна Чарнюк з Цялякаўскай, Марыя Віктараўна Клемянюк з Таўкачэвіцкай школ. Пытанні аховы правоў дзіцяці, узаемадзеяння Саветаў, навучальных устаноў, працоўных калектываў рэгулярна заслухоўваліся на сесіях у Ліцвянскім, Цялякаўскім, Сямёнавіцкім, Нёманскім сельскіх Саветах. 80 працэнтаў дзяцей і школьнікаў былі ахоплены арганізаванымі формамі аздараўлення ў летні перыяд.

У выданні вызначаны праблемы, якія неабходна вырашыць. Марудна скарачаецца колькасць школьнікаў, якія дапускаюць правапарушэнні, учыняюць злачынствы. У многіх педагагічных калектывах не наладжаны эфектыўны кантроль за "цяжкімі" сем"ямі, адсутнічаюць кантакты з інспекцыяй па справах непаўналетніх, судом, пракуратурай, аддзелам унутраных спраў райвыканкома.

Адным словам, факты і прыклады, прыведзеныя ў лістоўцы "Усе мы родам з дзяцінства", сведчаць, што сям"я ў сённяшнім супярэчлівым жыцці патрабуе самай пільнай увагі і падтрымкі дзяржавы, усяго грамадства.

## Навіны Віцебшчыны

### ДРУК УСЯЛЯКІ ШКОДНЫ

Адным з самых экалагічна небяспечных прадпрыемстваў у Віцебску аказалася абласная друкарня імя Камінтэрна. Штотыднёва ў кантэйнер для бытавых адходаў тут выкідваецца каля 20 кілаграмаў хімічных асадкаў — вынік працэсу электрахімічнага зярнення, у каналізацыю трапляе каля 70 літраў вады з трынатрыйфасфатам, больш за кілаграм старызны, забруджанай свінцом, адвозіцца на звалку.

На гэтыя сумныя факты звярнула ўвагу адміністрацыі друкарні пракуратура Чыгуначнага раёна абласнога цэнтра.

### БЮДЖЭТНЫЯ НОВАБУДОЎЛІ

Цэх па вытворчасці 600 тон маянэзу ў год адсвяткаваў наваселле на Гарадоцкім харчовым камбінаце. Гэта не адзіная добрая навіна ў перапрацоўчай галіне Віцебскай вобласці. Адначасова прыняты ў эксплуатацыю цэх па вытворчасці кандытарскіх вырабаў на камбінаце "Віцьба", уведзены магутнасці па рэктыфікацыі спірту ў Чашніках і ў калгасе "Чырвоны сцяг" Пастаўскага раёна.

Новабудоўлі сталі магчымымі дзякуючы ўліванням з бюджэту. У гэтым годзе на рэканструкцыю і пашырэнне прадпрыемстваў перапрацоўкі было выдзелена 23,7 мільярда рублёў, што дазволіла вобласці забяспечваць сябе на дзве трэці прадукцыяй уласных мяса-малочных і кансервавых прадпрыемстваў.

### СПЯШАЙЦЕСЯ!

Адкрытую падпіску на акцыі пачала недзяржаўная тэлекампанія "ТБ-Віцебск", якая стала акцыянерным таварыствам. У састаў заснавальнікаў АТ увайшлі фінансавая кампанія "Актыў траст інтэрнэшнл" і кампанія "АРТ відэа прадакшн" — абедзве з Віцебска, яны набываюць 10 працэнтаў акцый. Аднак любая іншая арганізацыя, любы жыхар горада і нават іншагародні могуць стаць саўладальнікамі Віцебскага тэлебачання, для гэтага дастаткова купіць хоць бы адну акцыю. Каштуе яна, дарэчы, 5.000 рублёў.

### АРТ-ЦЭНТР — МУЗЕЮ НЕ САПЕРНІК

Графічныя работы "Алека", "П"еро" і "Закаханыя пад дрэвам" Марка Шагала выстаўлены ў Арт-цэнтры яго імя ў Віцебску. Яны падараваны гораду дачкой мастака Ідай і прывезены з Парыжа. Марудна, але павялічваецца калекцыя твораў майстра ў яго родным горадзе, грамадскасць якога ставіць пытанне аб хутчэйшым адкрыцці дома-музея Шагала, што, несумненна, стала б падставай калі не для стварэння галерэі, то хоць бы для папаўнення экспазіцыі.

### ЗА КРЫМІНАЛ — ДА АДКАЗУ

За 10 дзён падраздзяленні па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю УУС Віцебскага аблвыканкома праверылі 1.159 аб"ектаў дзяржаўнага, ведамаснага, фірменнага, камерцыйнага гандлю і спажывецкай кааперацыі шэрагу гарадоў вобласці. За розныя абважванні, аблікі, крадзяжы 348 чалавек прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, узбуджана 21 крымінальная справа.

*БЕЛІНФАРМ.*

**"Движение за демократию, социальный прогресс и справедливость" /ДСПС/ было создано осенью 1991 года, когда националисты всех мастей, так называемые неформалы, зарождающиеся "демократы" с подсказки консультантов Запада принялись рьяно обливать грязью 70-летнюю историю нашего государства, все достижения советского народа. Особенно сильному давлению подверглась КПСС, против которой были сфабрикованы "убийственные" негативные факты. Теперь-то мы знаем, что это была заведомая ложь.**

**А тогда, чтобы противостоять этому мутному потоку дезинформации, клеветы, оболваниванию людей, чтобы спасти оставшиеся островки правды, демократии, справедливости, свободы, и было создано ДСПС. С его сопредседателем С.И.Калякиным беседует журналист Анатолий Смолянко.**

# С.И.Калякин: МЫ НАСТРОЕНЫ НА ПОБЕДУ

***— Руководители высших эшелонов власти утверждают, что они строят демократическое цивилизованное государство. Возникает вопрос: есть ли смысл в каком-то еще общественном движении и вести борьбу за эти благородные цели?***

— Во всем мире и во все времена руководители государств и правительств всегда заявляли о своей приверженности демократии, на словах боролись за прогресс, права человека, лучшую жизнь... Но для кого? — вот вопрос.

Сегодня наша реальность такова, что с большой степенью риска можно утверждать о демократическом пути нашего государства. Верх взяли силы, которые ведут общество в капитализм с жестоким подавлением всяких свобод, невиданной эксплуатацией, порабощением других народов... Под руководством западных финансовых воротил идет планомерная ликвидация отечественного промышленного и сельскохозяйственного потенциала. Мы свидетели того, как теряем все, что имели при социализме.

***— Но у нас есть демократические институты, провозглашена свобода слова, печати, пожалуйста, проводи митинги, пикетирование, выпускай листовки...***

— Все это так, но на деле мы видим совсем другое. Что толку от пустых лозунгов о свободе, когда человек бесправен чего-либо добиться. Особенно это ярко выражается теперь, после введения президентской формы правления. Набирают силу методы авторитарного управления всеми и вся. Об этом говорят и последние факты так называемых выборов руководителей облисполкомов: президент указом назначил своего ставленника, а вы, граждане, пожалуйста, проголосуйте. Вот почему и проходит "единогласное" одобрение.

А реформы? Они богатых сделали еще богаче, бедных — еще беднее. Около 5 млн. трудящихся оказались за гранью нищеты. Поэтому не приходится говорить о том, что путь, по которому ведут нас власти предержащие, демократичен, социально справедлив, прогрессивен. Вот почему наше движение и выступает за утверждение этих трех основополагающих принципов.

***— А насколько результативны ваши усилия?***

— Понятно, что наши действия ограничены по различным причинам, и проводить в жизнь свои программные цели очень трудно: ни одна левая партия не представлена в высших эшелонах власти, нет материальной базы, средств массовой информации... Но тем не менее наши акции привлекают внимание общественности. И это самое главное.

***— Да, ваши сторонники выставляют пикеты у госзданий и учреждений, иностранных миссий, выступают с заявлениями и обращениями...***

— Иначе нельзя. Дело в том, что шаги реформаторов не всегда воспринимаются всем населением однозначно: одни просто не понимают, куда их ведут, другие не имеют полной информации, третьи — запутались в словесах и болтовне чиновников... Наша задача — помочь людям разобраться в сущности проводимых реформ, грабительских постулатов "демократов", открыть глаза неосведомленным на то, что происходит в республике.

Не без наших усилий разрушительные реформы, которые вообще могли бы быть пагубными, удалось притормозить, а во многих случаях отстоять права человека на достойную жизнь, социально защитить некоторые слои населения. Вспомните, как ДСПС отстаивало льготы ветеранам, инвалидам, другим категориям людей.

***— В ДСПС входят коммунисты. Получается, что это движение — коммунистическая организация?***

— Не совсем так. Поясню. В первые послеавгустовские дни 1991 года ДСПС создавалась коммунистами. Почему? В то время деятельность КПСС была временно приостановлена, и, конечно, коммунисты не имели возможности реализовывать свои цели, вести политическую работу в массах.

После I-го съезда ПКБ, отмены временного запрета деятельности КПБ в феврале 1993 года коммунисты остались в ДСПС и продолжают работу в этом движении, так как цели и задачи во многом совпадают с теми, что записаны в Программе ПКБ. Во-вторых, ДСПС — эта организация создавалась скорее всего для широких беспартийных масс, некоммунистов, трудящихся, интеллигенции, не входящих в какие-либо партии и движения. Они-то и должны были по первоначальному замыслу стать дополнительным инструментом в борьбе за права трудящихся. Решить эту задачу пока не удалось.

***— Судьба ДСПС предрешена?***

— Партия коммунистов Беларуси — коллективный орган в ДСПС и составляет основу этого движения. В соответствии с новым Законом о политических партиях в ДСПС должны быть только индивидуальные члены. Таким образом оно займет свою изначальную позицию и будет выполнять только сугубо свои задачи.

***— Сергей Иванович, хотелось бы услышать ваше мнение о судьбе НДБ, о котором сейчас много разговоров.***

— Оно пока существует. В него входит и ДСПС. Все остальные партии и движения с большим трудом можно отнести к левому флангу, да и само НДБ не является центром левоцентристских сил, которым оно было год назад. И раскола могло бы не быть, если бы НДБ решало те задачи, для которых оно предназначалось: поиск путей выхода из кризиса без конфронтации и снижения уровня жизни народа, обеспечение народовластия в форме Советов, добровольный Союз народов и т.д.

Но занявшись другими функциями, попыткой соединить несоединимое, стремлением выдвинуть своего кандидата в президенты — все это и другие нюансы должны были привести к расколу. Например, Славянский собор "Белая Русь" и ПКБ — две различные политические силы, несовместимы ДСПС и ЛДП... Притом, смотрите, ветераны тянут себе, Союз офицеров — себе, словом, как в известной крыловской басне: однажды лебедь, рак да щука... Сегодня НДБ вряд ли можно отнести к влиятельной политической организации.

***— У всех на устах — выборы. Что в этом плане предпринимает ДСПС?***

— Правые силы уже создали единый блок. На левом фланге ситуация более сложная. Идут консультации. ПКБ и ДСПС не остаются в стороне от создания мощного блока, который должен выступить против правого реванша, против капитализации республики, разграбления национальных богатств, обнищания народа, за объединение славянских народов, за социалистический выбор развития...

Кризис будет нарастать. Объективных предпосылок для стабилизации нет. Поэтому многое зависит от того, каков будет результат выборов. Мы настроены на победу.

